# „ЗАРАНКА"



## КНІЖКА 4-я.

Друкарня Я. Левіна Вільня.

„ЗАРАНКА“

Ілюстраваная часапісь для дзяцей.

Год II. Вільня, Травень 1928. № 4



# Чароўны край.

Сыночку маленькі, ты ручку мне дай,
Увяду ця‘ ў чароўны, у нязьведаны Край,
Вузенькай мяжою мы пойдзем удваіх;
Так мякка, на‘т крокаў ня ўчуем сваіх,
Так мякка, прыгожа, пахуча... ах рай!
Сыночку маленькі, ты ручку мне дай...

Глянь жыта красуе—расуе кругом,
Русалкі—казыткі хаваюцца ў ём.
А зайчык прысеўшы ля самай мяжы,
На жабку міргае: „Дзе я не кажы“.

На лузе зялёным пан бусял стаіць,
Над ім ўецца кніга і кліча: піць-піць!
Шнур гусак на сонцы бліснуў, закрычаў,
Спусьціўся і ў лозах-чаротах прапаў.

На возера чыстай-празрыстай вадзе
Лілея свае карагоды вядзе...
Камарыкі роям лявоніху скачуць...
Ля берага вербы хістаюцца, плачуць...
Чаго яны плачуць? Ты сэрцам згадай...
Сыночку маленькі, ты ручку мне дай...

Мама.

Карл Эвальд.

Пераклаў А. Войніч.

# Зямля і камэта.

(глянь кніжку 3).

„Думаеш я не прабавала?“ — адказала зямля — „прабавала ня раз, ня два і ўсякімі спосабамі. Я выкідала з сваіх вульканаў цэлыя масы агню і распаленага каменьня ды засыпала гэтым цэлыя месты з людзьмі. Часта я на іх насылала буры і паводкі ды затоплівала іх тысячамі. А як яны ўжо мне за шмат даскуляць, тады абтрасуся, што значыць зраблю землятрасеньне“.

„Што-ж“—перабіла камэта—„і гэта не памагае?“

„Крыху памагае“ — адказала зямля —„але не на доўга. Іх ўжо за шмат намножылася. Мне трэба было перш над гэтым падумаць, калі іх было менш і калі яны ня былі яшчэ такія разумныя. Вытаплю, або засыплю іх некалькі тысячаў і думаю, што сем‘і тых людзей згінуць з голаду і тугі, а тут ужо іншыя складаюць ім, пацешаюць, ды памагаюць ім; і за некалькі гадоў я таксама перапоўнена, як і перад гэтым.

„Гэта нешта ня чуванае“—сказала камэта. — „Не магу зразумець, як ты гэта цярпіш“?.

„Дык што мне рабіць“ — адказала зямля — „Ніяк не магу даехаць ім да канца. Яны рассьлядзілі мяне ад бягуна да бягуна так, што для сябе ні кусочка ня маю. Яны аблічылі мяне, узялі з мяне меру ды яшчэ апісалі з усіх куткоў і рагоў... Некаторыя кладуць на свой стол кулю, якая мае мяне прадстаўляць і па ёй вывучаюць мяне найдакладней. Яны наперад вылічаюць, калі будзе бура і паводка, калі землятрасеньне і іншае... Пра ўсё гэта расказываюць ім апараты, што вісяць у іх на сьцяне, Скажы, што мне з імі рабіць?“

„Гэтага ня ведаю“ — адказала камэта, — „Ведаю толькі адно, што я-б гэтага не сьцярпела“.

Зямля глумліва засьмяялася і сказала:

„Ого! Толькі ня будзь за шмат заразумелай! У гэту

мінуту, як мы гаворым з сабой, мае людзі ўжо цябе вынайшлі. Глядзяць на цябе праз свае тэлескопы, аблічаюць тваю дарогу, даюць табе назоў, ды цэлыя тамы пра цябе пішуць. Так робяць найразумнейшыя з іх. Дурні цябе баяцца і думаюць, што прышла абвесьціць ім канец сьвету".

„Хто гэта такія дурні?" — пытаецца камэта.

Зямля так піхнула ледзяную шапку, што засыпала ледзянымі крыгамі палову атлянтыйскага акіяну і дзеля таго ў гэтым годзе на сёмуху дрэвы яшчэ не распусьціліся.

„Лепш пра гэта мяне ня пытайся" — зьбянтэжана адказала яна.

„Выбачай" — перапыніла камэта, — „Гэта мусіць сямейная тайна".

„Дзе-ж там" — адказала зямля. — „Зусім не. Але мне да сёньняшняга дня ня далося вынайсьці, хто ўласьне тыя дурні. Што такія ёсьць—гэта я ведаю. Іх на‘т вельмі шмат. Але пазнаць іх ня лёгкая штука. На тое, што гаворać людзі, ня зусім можна спусьціцца. Бо кожны іх лічыць сябе за разумнага, а другіх уважае за дурняў".

„Тады яны ўсе дурні" — заўважыла камэта.

Тут ужо зямля адчула абразу ад імя сваіх людзей. Яна апомнілася, што была ўжо вельмі шчырая з зусім ей невядомай чужой зоркай, якая яшчэ да таго і сама назвала сябе лёгкадушнай, няпэўнай асобай. Дзеля таго пачала гаварыць з сьведамасьцю сваей вартасьці.

„Ты вельмі памыляешся, мая дарагая камэта. Вельмі памыляешся. Я ніколі не хвалюся, але, калі ласка, заўваж, ці я не найбольш таёмная з усіх зорак. Разгледзься па ўсім сьвеце, дзе толькі захочаш, роўнай са мной ня знойдзеш. Паглядзі на Вэнэру, якая там у гарэ зьяе, на Юпіцера, на Марса, на ўсе іншыя, што так круцяцца, як і я навакол сонца. І так прыгледзься да мяне добра. Ды не перагледзь маіх глыбокіх мораў, маіх буковых лясоў ды пальмовых гаёў..."

„Шчыра кажучы, я ўсяго гэтага ня бачу" — адказала камэта. — „Можа ты і праўду кажаш. Бо мне здаецца, што ты спавіта густой цемрай".

„Ах праўда — сказала зямля крыху няміла ўражана“. —„Я зусім забылася пра гэта. Гэта мая атмасфэра“.

„Страх, як табе ўсё дапякае..., твая кара, твае людзі, твая атмосфэра“.

„Камэта!“ — прагаварыла зямля з павагай. — Гэта праўда, што я бегаю навокал сонца, як іншыя зоры, пра якія я табе гаварыла перш, праўда, што я належу да найменшых з іх. Ды ўсё-ж-ткі я пераканана, што ў запраўнасьці я твару асяродак сьвету“.

„Ты аж засаплася“ — адказала камэта. — Ты ня маеш прывычкі хваліцца, як сама кажаш... Адпачні сабе крышку, а пасьля хваліся далей“.

„Мне адпачываць?—адказала абражаным тонам зямля“. —„Як-бы я гэта зрабіла, было-б па мне. На гэтым, што я дакладна спаўняю свой шлях навакол сонца, апіраецца ўсё. І яшчэ раз скажу: я не хвалюся, але я найбольш нязвычайная з усіх зорак, хоць-бы ўжо праз маіх людзей. Іх на ніякай зорцы няма... Гэй!!! Што з табой? Ты мусіць хочаш ад гэтуль уцякаць?“

„А ўжо-ж гэта зраблю“ — сказала камэта.

„Божа!“ — сумнавата прамовіла зямля. — Няўжо-ж ты ня можаш колькі гадоў тут астацца? Я думаю, што наша супольнае падарожжа была-б вельмі прыемным. Вер мне, што невялікая прыемнасьць адбываць адну і тую самую дарогу ды ні з кім не гаварыць, апрача прыдуркаватага месяца“.

„Хто ён такі,.. гэты месяц?“—пыталася камэта.

„Гэта вось той малы хлапец там у гарэ“, — адказала зямля. — „Ён цэлы час круціцца навакол мяне. Гэта марная зорка ў адстаўцы; я ўзяла яго к сабе з ласкі, як ён апушчаны бадзяўся па сусьвеце. Цяпер ён зусім пагас — дурненькае, нешчасьлівае стварэньне. Яго таксама добра можна было аддаць у дом убогіх. Але ў нас ужо такі звычай—мець свой месяц. Юпіцер мае аж восем, але гэта толькі неразумнае ўдаваньне нечага вялікага“.

„Бывай здарова!“—сказала камэта.

„Астанься на мінутку“ — прасіла зямля.

„Не магу“ — адказала камэта. — „Я таксама мушу

адбываць сваю вызначаную дарогу, а цяпер трэба хутчэй пасоўвацца наперад. Зрэшта маю ўжо даволі тваей хвальбы".

„Калі ізноў вернешся?" — пыталася зямля.

Камэта зашумела сваім трохпадзельным хвастом.

„За трыста гадоў!" — гукнула зямлі на жагнаньне. І рабілася ўсё меншай ды меншай, аж зусім зьнікла з вачэй.

„Вось маладзец камэта,"— сказаў месяц — як яна ляціць і які ў яе хвост! Гэта не такое жыцьцё, як марнай плянэты".

„Вачавідна"--кепкавала зямля. Яно бадай такое добрае, як жыцьцё месяца".

Але месяц быў у поўні і толькі падсьміхнуўся сабе.

* * *

Па трыста гадох вярнулася камэта.

Зямля ўжо даўна чакала яе з тугой і пільна лічыла свае абвароты навокал сонца. Яна прыбралася фіялкамі ды іншымі кветкамі, на якія магла здабыцца ў сакавіку.

На зямлі стаялі людзі з тэлескопамі і выглядалі камэту, дарогу якой дакладна аблічылі. Разумныя цешыліся, што будуць відзець нешта прыгожае, нязвычайнае, а дурні ляжалі на ложках ды плакалі са страху, або туды-сюды бегалі, дурылі сябе ды рабілі розныя глупствы.

„Ужо камэта ёсьць"—сказаў адзін з разумнейшых людзей, што стаяў на найвышэйшай вежы, меў найлепшы тэлескоп і найлепш разумеўся на камэтах.

„Ужо ёсьць камэта!" — крычаў месяц. — „Ура! Цяпер будзе весела!"

„Ужо ёсьць камэта!"—закрычала радасна зямля. — „А як бліжэй прыплыла камэта, вялікая, зьяючая, з даўгім трохпадзельным хвастом, зямля так стала махаць сваёй ледзяной шапкай, што па морах плавалі ледзяныя горы і вельмі стала сьцюдзёна на зямлі. Дурні былі перакананы, што зbліжаецца канец сьвету, а нават разумныя людзі задумаліся над гэтым.

(Канец будзе).



# Крот.

Адзін раз, ідучы дарогай вучыцель пабачыў, што дзеці, каторыя пасьвілі скацінку на полі, сабраліся ў кучу і прыглядаліся нейкаму чорнаму зьвярку.

— Што тут маеце — запытаўся падышоўшы вучыцель.

— Мы забілі крата — адказалі пахваляючыся дзеці.

— Пакажыце яго сюды!

Зьвярок быў малы, чорны, бліскучы, нязграбны, як валак, з тонкім рыльцам і вочкамі такімі маленькімі, што



нат трудна было іх убачыць, здаваўся ён зусім сьляпым. Прыглядаючыся аднак бліжэй можна было ўбачыць яго маленькія, бліскучыя вочкі, глыбака схаваныя ў шэрсьці. Вушкі таксама меў маленькія, а пярэднія лапкі шырокія, плоскія былі зьвернены ў бок і мелі вострыя, моцныя капцюры. Вось тымі шырокімі лапкамі, крот капае сабе норы ў зямлі; заднія яго лапкі былі малыя, тонкія, а на канцы цела кароценькі хвасток.

— На што вы яго забілі — запытаўся вучыцель.

— Як на што? Ен-жа шкоднік, грызе карэньчыкі збожжа і псуе поле сваімі норамі.

— Хто вам гэта казаў?

— Так людзі гавораць — адказаў адзін з хлапцоў.

— Чаго толькі людзі не плятуць, але-ж не ўсяму верыць можна. Вы кажаце, што крот шкоднік, што грызе карэньчыкі збожжа, а я вам пакажу, што гэта няпраўда.

Дастаўшы ножык, вучыцель на вачох зьдзіўленых дзяцей распароў бруха крата, адкрыў жалудочак і кажа:

Калі-б крот еў карэньчыкі расьлін, то ў яго жалудочку мы-б знайшлі кусочкі гэтай стравы, г. зн. кусочкі карэньчыкаў. Так, як напрыклад, у курыцы знайшлі-б зерняты, жарству і іншыя рэчы, якія курыца глытае. Цяпер глядзіце, што знойдзем у крата: вось галоўка нейкай жамяры; тут вось ізноў кусочкі чарвякоў, а тут маеце цэлы клубок гусьвіцаў. Ніякіх карэньчыкаў і наагул ніякіх расьлін і сьледу няма.

Дык вось бачыце, дзеткі, што крот карэньчыкамі ня корміцца і расьлін ня псуе, а наадварот корміцца ён усялякімі казуркамі, якія жывуць у зямлі і нішчаць нам збожжа. Найбольш крот зьядае шкодных гусьвіцаў жамяры і нішчыць самую жамяру. Кожны крот зьядае за дзень толькі ўсялякіх казюляк, колькі сам важыць. Палічыце цяпер, колькі шкоднікаў зьнішчыць адзін крот праз адзін толькі год, а колькі праз усё сваё жыцьцё, тады зразумееце, якую вялікую крыўду робяць людзі самі сабе, забіваючы гэтага карыснага зьвярка.

— Але-ж мы ня ведалі, што ён такі карысны, — адказалі дзеці, — цяпер ужо больш гэтага ня зробім.

— Крот можа быць часам шкодным, — гаварыў далей вучыцель,—але толькі на сенажацях і ў гародах, бо выкідаючы даволі вялікія кучкі зямлі з сваіх норак, псуе траву і падрываеварыва і кветкі. Шкодным бывае крот яшчэ тады, калі зробіць сваё гняздо ў млыновых грэблях, якія псуе сваімі падзямельнымі сьцежкамі. Дык вось за гэта ня любяць крата мельнікі і агароднікі, б'юць яго ці выганяюць, кладучы яму ў норы галоўкі селядцоў, каторых паху крот цярпець ня можа. Але ў полі толькі прыносіць карысьць.

— Помніце, дзеткі, ніколі на полі крата не забівайце

З польскага М. МАШАРА.



# Песьні зямлі.

Граў пастушок у полі на жалейцы, так прыгожа граў, ажно ўсіх зайздрасьць узяла.

— Давайце, запяём і мы—сказалі птушкі, жабы, мухі, жывёліны, зьвяры, дрэвы, траўкі, рэчкі ды іншыя аматары.

— Давайце, усе сьпяваць будзем!

— Чы-чы-чы-чы-чы! Тур-р-рль-тур-р-рль! пачаў вывадзіць пекныя трэлі салоўка. Усе заслухваліся яго песьнямі і хвалілі яго цудна-прыгожы голас. Ен зрабіўся першым сьпявакам між птушак. Яго слава грымела па ўсім сьвеце.

— Ці-ці-ці-і-і! — зацягнуў сваю ценкую зычную нотку жаўранак. І з яго быў някепскі аматар да сьпеваў. Стогны й жальбы шчырай душы чуліся ў яго песьнях. Яны вельмі радавалі і цешылі ратая.

— Чык-чырык! чык-чырык! — чырыкаў верабей. Выходзіла някепска і ў яго.

— Кра-кра! кра-кра! — кракала варона, думаючы, што гэта ня дай Божа як прыгожа.

— Ку-ку! ку-ку! — кукавала зазюля адно і тое самае. Хоць голас быў зычны, але нуднаваты.

— Піць! пі-іць! — зацягівала сваю песьню птушкаканя. Галасок яе быў прыемны, але залішне сумны.

— Дра! др-р-ра! — стараўся драч. У вялікім хоры гэта выхадзіла добра, затое паасобку залішне вуха рэзала.

— Ток-ток-ток! — токаў цецярук. Але ад яго песьні болей усяго чулілася яго жонка, Цяцера.

— Ку-га-а! ку-га-а! го-го-го! — плакала й рагатала сава. Гэта была музыка жудасьці й страху, якая спадабалася кажаном у начы.

— Ква-ква! ква-ква! — квакалі жабы. Тут было шмат пачучьця і мала таленту.

— Ж-ж-жу! ж-ж-жу! — жужджэў жук. У вялікай кампаніі і ён не перашкаджаў, а мо' яшчэ й дапамагаў.

— З-з-зум! з-з-зум! — лёгка перабірала пчолка на ценкіх струнах сваіх гусьляў. Усе пчалу надта хвалілі. Толькі мядзьведзь казаў, што яе хваляць ня так шчыра за песьні, як за мёд.

— Му-му-му! — мычэла кароўка. Гаспадыня пры гэтым яе гладзіла і даіла. Пеўнік прысягнуўся, што гаспадыня гладзіць яе не за песьню, а за малако.

— Мэ-мэ-мэ! — мэкала авечка. „Дай мне свой кажушок, тады цябе паслухаю“ — сказаў сівенькі дзядок.

— Хрук-хрук-хрук! — хрукала сьвіньня. Жартаўнікі гаварылі, што яе сала пад блінамі яшчэ пякней сквірчыць.

— Няў-няў-няў! — няўкаў кот. На мышэй ён рабіў сваёй музыкай вялікае ўражаньне.

— Гаў-гаў-гаў — брахаў сабака. Тут разам з прыемнасьцю гаспадар меў і карысьць, бо сваім голасам сабака зладзяёў пужаў.

— Во-о-ой! во-о-ой! — выў воўк у лесе. Музыка яго была няпрыемная, бо лілася з глыбіні галоднай душы, навадзіла на чорныя думкі.

— Кап-кап-кап! дзін-дзін-дзін! там-там-там! — зьвінела і журчэла рэчка, пераліваючыся з каменя на камень. Рэчка часам зьвінела, як шкляны званок, а часам стагнала, як кволыя струны арфы. Ею заслухіваліся дзяўчаты, якія па ваду хадзілі.

— Скрып-рып! скрып-рып! — скрыпела сасна аб сасну ў лесе. „Ад такіх асоб, што век свой вякуюць на адным мейсцы ў дзічы, і гэта прыемна паслухаць!“—гаварылі ўсе.

— Шу-шу-шу! шу-шу-шу! перабірала асіна дрыжачымі лісьцямі пад ветрам. У яе песьні было шмат кволасьці й страху. Відаць было, што ў асіны адвагі не хапае.

— С-с-с! с-с-с!— вывадзіў свае шэпты чарот ля рэчкі. Дзікія качкі памагалі яму шумам сваіх скрыльляў, відаць, што ім спадабалася. А качкі—птушкі заморскія й ведаюць смак у такіх рэчах.

Шоп-шап! шоп-шап! — таемна сяпявала жытняе поле. Мятлічкам і васільком гэта было па сэрцу — яны шчыра заслухіваліся сьпевам-шэптам жытняга поля.

Шчолк-шчолк! — сьпявала пуга-драцянка ў руках пастушка. Гэта было досыць цікава. Але поле гаварыла, што без дапамогі чужой рукі так не здолела-б выраблядца.

Водгульле перадражнівала ўсіх—ад першага да апошняга.

— „У яго шмат спрыту да перайманьня чужога, але нічога свайго няма, — сказаў дуб, — а гэта самае найгоршае, бо кожны павінен быць самім сабою“.

А калі часам у поўдзень, на ўсход, ці на захад сонейка ўсе разам засьпявалі, — выхадзіла вельмі прыгожа. Тады здавалася, што гэта сьпявае сама зямелька-маці.

З. Бядуля.



# Спрытныя зладзяі.

I.

Два зладзяі маленькія
Забраліся ў гарод
На грушкі ды на яблыкі
Салодкія, як мёд.
Аж хтось бяжыц, махаючы,
Яны—давай, Бог, ногі!
І яблыкі губляючы,
Нясуцца ўдоўж дарогі.

II.

Тут дзерава пустое
Іх бегства прыпыніла—
І думкай ня простай
Галоўкі асьвяціла.

III.

І хлопцы скарысталі
Са шчасьця, як умелі,
Галовы пахавалі —
А ногі—не пасьпелі.

IY.

Ураз за імі сьледам
Вартоўнік прыбегае,
Навакол аглянуўся
І вочы працірае.
„Куды-ж яны дзяваліся?
Няма-ж другой дарогі!?
А ў лісьці трапяталіся
Ад сьмеху моцна ногі.

Ўнучкаў Земляк.

# Працы нашых чытачоў.

* * *

Моладзь, Моладзь, ўся надзея
Маткі Беларусі!
Наша першая ідэя:
Сьмелымі быць мусім.
Мусім стаць нагамі цьвёрда
На Родную Зямельку
З болям трэ' бароцца горда,
Змагчы труднасьць „вельку"*)
Мусім выставіці грудзі
Нявыгодзе сьмела,
Каб з нас потым выйшлі людзі,
Каб з нас вышла дзела.
Будзем слабых бараніці,
Праўды дамагацца,
І ў згодзі брацкай жыці,
За волю змагацца.
Дружна возьмемся за дзела
З раньняю зарою
І наперад пойдзем сьмела
Моцнаю сьцяною.
Гэй, да працы люд свабодны!
Браты і сястронкі,
Хай ляціць наш Гымн Народны
Ува ўсе старонкі.
Няхай зыкам сваім вольным
Ускалыхне паветра
Каб пачуў яго цьвет польны
Роднай пушчы нетра.

С. Пастушок.

Дубна. Сакавік.

---

*) Вялікую, у Горадзеншчыне ўжываюць слова „велькі".

# На Палесьсі.

(глянь кніжку 3).

Дзядзька сеў на лаўку, а я стоячы каля адчыненага вакна прыглядаўся тым мяйсцовасьцям, праз каторыя ехаў. Вельмі цікава было глядзець. як прад тваімі вачыма пралятаюць лясы, палі ды паплавы. Мы праехалі нейкія дзьве станцыі і ўехалі ўжо ў палескі пас. Тут мне было навошта глядзець: бо першы раз я бачыў паляшуцкія лясы, вельмі тыпічныя і характэрныя толькі аднаму Палесьсю. Лясы ня вельмі густыя, зложаныя з ельніку, хвойніку, а ў большай частцы з бярэзьніку, асіньніку, ды наагул з лісьцястага дрэва. У нізе дрэў растуць усялякага роду кусты, каторыя палескім лясам надаюць яшчэ прыгажэйшы выгляд. Часамі можна было ўбачыць луг, абкружаны з усіх бакоў лесам. Луг гэты яшчэ не прадстаўляў сабою палескага балота, быў больш падобны да нашых лугоў.

У майго дзядзькі было з сабой некалькі картаў тых аколіцаў Палесься, у якія мы ехалі. Гэтыя карты выдалі яшчэ немцы падчас вайны з расейцамі. Яны былі вельмі падрабязныя, бо найменьшая сьцежачка тут была адзначана.

Не даяжджаючы да станцыі Люсіна, дзядзька. глянуўшы на свае карты сказаў мне: „Глядзі вось у гэта вакно на правы бок дарогі, тут скора будзе возера“. Я з ахвотай пайшоў за радай дзядзькі, і ў хуткім часе заўважыў досыць вялікае возера, каторага назоў не памятаю. Яно лежала ад жалезнай дарогі на нейкіх 700 шагоў. Возера мяне вельмі зацікавіла, бо, фактычна першы раз я такое бачыў. Сваю-ж цікавасьць я ім доўга не карміў, бо цягнік хутка праляцеў і возера зьнікла з маіх вачоў. Я сказаў дзядзьку: „Вось хацелася-б быць блізка такога возера, а што найляпей, паплаваць па ім у лодцы“. Дзядзька адказаў: „Цяпер будзе станцыя Люсін, а ад яе нейкіх шагоў 50 ёсьць таксама возера, яшчэ мо‘ большае за тое, што ты бачыў“. Гэтая навіна мяне яшчэ больш усьцешыла, бо, як не кажы, на станцыі цягнік стаіць трохі, а ў гэты час можна будзе паглядзець на яго. У працягу нейкіх мінут дзесяці я чакаў з нецярплівасьцяй, калі супыніцца цягнік.

Аж, к вялікай маёй радасьці, ён хутка падляцеў над станцыю і стаў. Я хутчэй выбег з вагону, каб паглядзець на возера.

І ўзапраўднасьці, вось дзе была прыгожасьць: вялікі, вялікі кавалак зямлі быў заліты вадой, а паверхня гэтай вады была спакойная, спакойная — быццам і вада хацела зьліцца з гэтым прыгожым летнім днём, быццам і яна не хацела нарушваць гармоніі і спакою. Гэта паверхня вады была быццам люстра, у каторым адбівалася неба, сонца, і ўсе тыя беленькія хмаркі, якія могуць быць на небе ў прыгожы летні дзень.

Не пасьпеў я з большага разглядзець возера, як быў дадзены сыгнал, што цягнік адходзіць. Я пусьціўся бягом у свой вагон, і чуць, чуць пасьпеў у яго ўлезьці. Прыйшоўшы ў вагон я ўбачыў апроч свайго дзядзькі нейкіх людзей, якія селі на гэтай станцыі. Сеў на лаўку каля вакна я і сяджу. Дзядзька запытаўся: „Ты вельмі хацеў-бы павазіцца на возеры?“—„Ой, яшчэ і як!“ — адказаў я. „Як будзем ехаць назад, дык затрымаемся на даўжэйшы час на гэтай станцыі ў маіх знаёмых, і тады ты павозішся“. Гэта мяне вельмі ўсьцешыла і я, яшчэ больш здаволены з свае падарожы, ехаў далей. Машына пёрла ўперад, штораз, то хутчэй, быццам сама сабе падавала ахвоты, і што-раз то далей адвозіла нас ад свае роднае вёскі, што-раз то бліжэй падеджджалі да цэнтру Палесься.

Янка Патаповіч.

(Працяг будзе).



# Па грыбы.

Было гэта ў пачатку верасьня. Аднае раніцы я з сястрой і братам паехалі пад лес капаць бульбу. Было ўжо пад вечар, калі я ўгледзіў, што мая суседка Вера П. панясла з лесу поўны кошык грыбоў. Доўга не чакаючы, я кінуў капаць бульбу і пабег у лес па грыбы. Цяпер там было не так весела, ня было чуваць гэтак вясёлага, як улетку, сьпеву птушак, а лісьця з дрэў пачалі ўжо асыпацца. Было нейк сумна на душы, бо, калі раздумацца, дык і чалавек перажывае ў сваім жыцьці тыя самыя перыяды, што і дрэва. Ен таксама, калі малады пяе весяліцца — гэта для яго вясна, або радасныя дні, але калі ён пастарэе, дык зробіцца сумным, задуманным і малагутарлівым.

Вясёлыя сьпевы і хохат дзяўчат перапынілі мае гэткія сумныя думкі. Хутка я сустрэў грамаду хлапцоў і дзяўчат, якія пачалі запрашаць мяне ў кампанію. Я ахвотна згадзіўся і мы пачалі шукаць грыбоў. Пападаліся пад руку найбольш апенькі, якія ня вельмі добрыя, і мы іх стараліся зьбіраць як найменш, а шукалі ўсё баравікоў. Гэтыя грыбы шмат большыя ад апенькаў і па якасьці лепшыя ад іх. Пападаліся таксама часам і казьлякі, але рэдка. Гэтыя грыбы належаць бадай да найлепшага гатунку. Аддзяліўшыся ад кумпаніі, я доўга блукаўся па лесе, пакуль не натрапіў на вялізарны куст грыбоў, перадусім баравікоў. Назбіраўшы поўны кошык грыбоў, я пачаў зьбірацца дамоў. Захадзіла сонца і туман пачаў ужо паволі асядаць каля рэчкі, калі я нейк неахвотна варочаўся дамоў і з сумам пакідаў лес, бо ведаў, што доўга яго не ўбачу—я назаўтра меўся ехаць у Вільню ў Беларускую Гімназію. Выходзячы з лесу, я доўга стаяў на яго беразе, а потым прашаптаў: „Бывай, бывай дарагі лес! Мусіць цябе доўга няўбачу“. Усюды было спакойна, толькі дрэвы шапталі мне: „Астанься, астанься!“

А. У.
вучань малодшае клясы В. Б. Г.



# Апісаньне Косава.

Места Косаў-Палескі стаіць зусім у даліне. На поўнач ад Косава ляжыць вёска Хадоркі, на ўсход яго акружае лес, на поўдні знаходзіцца вёска Белавічы, на захадзе маёнтак Марачоўшчына, дзе ёсьць Косаўскае Староства. У Косаве сярод рынку стаіць праваслаўная царква, процiў царквы — пошта, а кругом рынку тарговыя будкі і высокія мураваныя дамы.

На ўсход ад царквы на канцы места стаіць каталіцкі касьцёл; за касьцёлам цячэ рэчка Муцьвіца, а напроціў Косаўскае Надлесьніцтва, польская паўшэхная школа і шпіталь, а далей каталіцкія могілкі.

За рэчкай Муцьвіцай ёсьць два паравыя млыны, гміна і праваслаўныя могілкі. На вуліцы Марачоўскай знаходзіцца Акружная Управа Т-ва Беларускай Школы. На права ад царквы пачынаецца вуліца Ціхая, дзе я жыву, кончыцца яна пры балоце над рэчкай Муцьвіцай.

Марыя Ласька.

---





# Загадкі і круцігалоукі



## РАССЫПАНКА.

З ніжай пададзеных складоў зложыцца адна строфка верша Янкі Купалы (з кн. „Шляхам Жыцьця").

чы-ня-ву-жа-чы-бо-не-жа-зма-з-ву-мо-гац-до-во-чэнь-па-што-з-ня-ся-ца-ляй-дня-кі-ня-му-чыць-го-дум-жыць-дзе-і-ко-што-во-тры-зьбя-ня-жыць-ні-пры-ляй-лі.

---

## КРУЦІГАЛОУКА З ЛІТАРАЎ.

(падаў М. Смаршчок).

| | | |
|---|---|---|
| с | с | о |
| о | ы | ы |
| с | н | н |

Паперастаўляць у клетках літары так, каб атрымаць 3 словы, якія можна будзе адзінакава прачытаць і з гары ўніз і з лева направа.

---

## ЗАГАДКА.

(падаў М. Смаршчок).

Як падзяліць цыфру 8 напалавіну, каб атрымаць два нулі.

---

## РАЗГАДКІ да КНІЖКІ 3-яй.

ЗАДАЧА.



ЗАДАЧА.

Літара „С".

КРУЦІГАЛОЎКА.

Словы: 1) Ку-ры-ца 2) Рэ-па 3) Га-ла-ва. Псэўданім: КУ-ПА-ЛА.

---

Добрыя разгадкі прыслаў М. Смаршчок.

Рэдактар-Выдавец Л. Войцікава. Друк. Я. Левіна Вільня.

# Наша пошта.

**М. Смаршчку**. Пару тваіх загадак зьмяшчаем ў гэтай кніжцы, а і рэшта будзе зьмешчана. Прысылай балей. Прысылай таксама ўзоры цацак, якія ізноў будзем падаваць у „Заранцы“.

Што тычыцца лекарскіх зёлак, то ахвотна паведамляем, што цяпер можна зьбіраць: кветкі **белай крапівы**, **белага бэзу** (бузіны), **ліпы**, **палявых братачкоў**; зельле: **загардушкі**; лісьця: **бабоўніку, крапівы, мучанічніку**. Падаем тут некалькі тых зёлак, якія ў нас спатыкаюцца ў вялікім ліку, а ў прадажы маюць добрую цану. Не радзім зьбіраць ўсяго па крышцы, а ляпей выбраць адну дзьве расьліны, якія найлягчэй сабраць у вялікай колькасьці. Добра высушаныя (у цянку, каб не трацілі коляру) можна прысланць у рэдакцыю „Заранкі“, а мы пастараемся прадаць іх якнайкарысьней і адашлем табе грошы. Шчыра радзім папрабаваць.

**А. Ваховічу**. На гэты раз, паводле тваей просьбы „Заранку“ яшчэ высылаем, але-ж і чакаем абяцанай падпіскі. Вельмі нас цешыць, што „Заранка“ гэтак табе падабаецца.

**„Сярожы Пастушку“**. Адначасна з гэтай 4-ай кніжкай высылаем табе камплект „Заранкі“ за 1927 год, дзе было зьмешчана пару тваіх вершаў. Цяпер ізноў верш зьмяшчаем а і „Прыкрае здарэньне“ з часам пойдзе. Напішы нам ці маеш магчымасьць хоць крыху вучыцца і ці ёсьць дзе дастаць беларускія кніжкі да чытаньня? Прысылай нам сваіх вершаў балей. Ахвотна будзем іх пераглядаць і што добрае зьмяшчаць. Шчыра жадаем табе, каб ты меў магчымасьць вучыцца і разьвівацца.

